жывот падлез. Бэра і сама галаву нагнула, зірнула, што там, пад жыватом, сабраўся лысы чалавек рабіць?

— Глядзі, Адась!

Парубчык рот адкрыў, але так і слова не вымавіў — пярэднія капыты кабылы адарваліся ад дарогі.

— Ну як? — запытаўся з-пад кабылы Вочап.

І Парубчык на хаду змікіціў:

— Не, брат, каб яшчэ чуць.

— Ты лепш глядзі!

Вочап крахтануў пад кабылаю і так падняў яе, што цяпер нічога не скажаш — падняў.

— Цяпер, Адась, бачыў?

— Цяпер бачыў...

— Я ж табе казаў! — пераможна засмяяўся пад кабылаю Вочап.

— Але. І на дзесяць гадоў табе маладзіцца можна было. Вылазь з-пад кабылы, паедзем! — паклікаў Парубчык, не рады, што і ўвязаўся ў спрэчку.

— Успеем з козамі на торг!.. Адасю! О Адасю! — неяк спалохана паклікаў Парубчыка Вочап.— Паясніца не гнецца. Не паварушыцца. Памажы вылезці з-пад кабылы.

Вочап, мабыць, сам памкнуўся яшчэ раз, каб вылезці, і застагнаў, быццам шылам яго кальнулі.

Парубчык прыпыніўся, збоку паглядзеў на кабылу, якая стаяла ўпоперак дарогі, прыгнуўся, знізу зірнуў і на Вочапа, азірнуўся навокал і зарагатаў:

— А каб ты спрах! Гэта ж трэба — пад кабылаю...

— Адасю, злітуйся! Што ж рабіць?

— Як што рабіць? Як той чорт з казкі — нясі Бэру да канюшні, а там скінеш!

— Адасю!..

— А не — я запрагу Бэру, а ты так і пераступай пад ёю! — не ўнімаўся Парубчык: надта ж смешна было, збоку стоячы.

— Я і бутэлькі з цябе сыскаваць не буду...

— Ат — пра што ты! — Парубчык махнуў рукою, стараючыся не смяяцца, укосікі даклыпаў да

кабылы, выцягнуў Вочапа, падвёў сагнутага, як карча, да саней, паклаў, палітонам накрыў і шапку на галаву надзеў.

І пасміхаўся, запрагаючы кабылу. А Бэра пазірала то на Вочапа, які ціхенька стагнаў на санях, то на Парубчыка — і не магла даўмецца, што ж гэта такое і з якое нагоды гаспадары тут рабілі?

Калі ж зноў паплылі па дарозе сані, Вочап перастаў стагнаць, уздыхнуў, сказаў да Парубчыка:

— А Коля ж твой, пакуль мы дадому, да Мінска даўно даехаў...

— Дзіва што! І Галя твая даўно выспалася ў Слуцку.

— Ты ж, Адась, хоць нікому нічога не гавары!

— Хіба ты мяне не ведаеш? Не першына нам... Выграеш заўтра на печы радыкуліт гэты. Як Агата твая на цялятнік пойдзе, падыду я, прыдумаем нешта...

Вочап перастаў пакрэхтваць, мабыць, уявіў, як яны заўтра сыдуцца з Парубчыкам.

Былі свае прычыны і ў Парубчыка, каб усцешылася душа, таму пасміхаўся ён сам сабе задаволена, а потым і заспяваў.

Пачаў памагаць Парубчыку Вочап, падрыкваў басам, і закалываліся ўразнабой над месячным полем два галасы:

Я вярнусь дамоў на дасвецці дня,
Напаю жану, абніму каня...

# *Чысты ліст*

## I

Ноччу яму сасніўся вялікі рыжы кот. Той самы кот, што жыў у яго да вайны і з якім любіў гуляць сын.

Ціхенька гэтак гэцнуў кот з падлогі на пасцель і пайшоў, памаленьку ступаючы, па нагах, узлёг на грудзі, паклаў халаднаватыя лапы, выпусціў кіпцюры, усадзіў у скуру і ўсё мурлыкаў, мурлыкаў, а кіпці балюча нізалі грудзі, вочы ў ката загарэліся, вушы прылеглі, і ён дзіка мяўкнуў і ашчэрыў раптам вялізны з жоўтымі зубамі рот...

Алесь Паўлавіч закрычаў ад жаху і прачнуўся. Махнуў нават рукою, каб прагнаць ката.

У пакоі было цёмна і глуха. Ля ложка, на круглым аксамітным дыванчыку, сядзеў, скурчыўшыся, рыжы кот.

Алесь Паўлавіч з ліхаманкаваю паспешнасцю запаліў начнік: побач з дыванчыкам стаялі ягоныя пантофлі.

— Чорт ведама што! — вылаяўся ён.

Але заснуць больш не мог. Балела ў грудзях.

Ён ахінуўся піжамаю, сунуў ногі ў настылыя пантофлі, запаліў люстру, у кішэні знайшоў пачак цыгарэт з фільтрамі, закурыў.

Было чуваць, як далёка ўнізе, на вуліцы, бразгалі на стрэлках штангамі тралейбусы. Алесь Паўлавіч прагна зацягнуўся, але лягчэй не стала. Ён пастаяў, прыслухаўся да сябе і раптам адчуў, што можа вось так раптам і памерці. Ад гэтае думкі ў яго аж пахаладзелі ногі — такою рэальнаю і блізкаю здалася смерць.

Ды і сам ён угледзеў раптам сябе збоку, староннім вокам, крыху ссутуленага, маленькага і таўставатага старога з бледным, як і ў кожнага

кабінетнага работніка, тварам, нібыта чалавек толькі што цяжка перахварэў. Алесь Паўлавіч ведаў, што час робіць сваю работу, што маладое становіцца старым, несімпатычным і бездапаможным, злым і смешным — і па-свойму прыгожым,— глездзячы да якое старасці дажыў чалавек. Алесь Паўлавіч ведаў, што ў чалавека, які пражыў добрае жыццё, і старасць добрая і прыгожая. Але і ўсе думкі яго, і ўсе назіранні пра старых і цікавыя былі тым, што сябе ён не прызнаваў старым. Глядзеў ён на старых, як глядзяць маладыя. І вось сёння раптам у тым натоўпе, да якога ён прыглядаўся кожнага дня прывычным вокам мастака, пазнаў раптам і сябе самога — не надта каб прыгожага і адметнага, шэранькага, таўставатага старога, які ўсё ведае ў жыцці і з якім лепш не займацца, якога лепш не чапаць.

Алесь Паўлавіч аж гмыкнуў — гэтак ясна ўбачыў свой партрэт на агульным фоне. І каб неяк паставіць усё на сваё месца, скептычным вокам кінуў і на таго, маладога сябе: крыху асадзіць — не гэтакі і ты спраўны быў ззамаладу. І з усмешкаю ўгледзеў сябе ў тым цесным пакойчыку ў прыватным доме, дзе цяжка павярнуцца было і які называўся майстэрняю. А яму зайздросцілі, як і сапраўднаму мэтру, таму што ён быў ужо вядомы,— і з тых, хто пачынаў новае мастацтва. Ён запрашаў да сябе пачаткоўцаў. Маладыя ўсчыналі спрэчкі, аж сварыліся. Ён любіў гэтыя спрэчкі, любіў гаварыць сам заключнае слова... А после... Ці то ў яго ўжо завялася першая сям'я і прасторная кватэра, ці то маладыя пачалі выходзіць з-пад яго ўлады, не згаджаліся і крытыкавалі самога яго. Ці тады ён і сапраўды набраў вагу і кіраваў мастацтвам, а таму несалідна было з маладымі, з багемаю ладзіць папойкі, тым больш у сваім доме? Хутчэй за ўсё так — ён стаў ужо масцітым і, як усе масцітыя, ведаў, што трэба рабіць, і не любіў і не прызнаваў ні крытыкі, ні сяброўскіх заўваг. І пачаў гаварыць, што любіць адзіноту, бо нестае часу, каб засяродзіцца, узяцца за тую галоўную сваю работу, якая ўжо задумана, выношваецца ў душы ледзь ці не з пялёнак...

З тых маладых, што збіраліся ў яго, амаль нікога і не засталося жывога — пагінулі то ў вайну, то і без вайны, гэтак і засталіся вечнымі маладымі, якія падавалі многа надзей. І сам ён не раз гаварыў пра іх са зразумелым аб'ектыўным жалем і шкадаваннем, хаця пачынаў забываць іхнія аблічча. Усе яны зліваліся ў нейкае адно аблічча, маладое, задзірыстае, неразумнае, якому можна, як дзіцяці, даравацъ і дзёрзкасць і нават грубасць, і пашкадаваць. У той час ён многа маляваў. Ягоныя палотны, вялікія і сонечныя, з вясёлымі будаўнікамі на рыштаваннях, чырванашчокімі калгасніцамі ля малатарань, з белазубымі рабочымі за станкамі былі ў першых на выстаўках. Ён пажынаў славу і адчуваў сябе мастаком самае большае велічыні, якому было ўжо быццам і не да твару ўмешвацца словам у розныя там арганізацыйныя і тэарэтычныя пытанні. Алесь Паўлавіч і пасля з усмешкаю сузіраў, як новыя маладыя спрачаліся і ваявалі за сапраўднае мастацтва, лаялі ягоныя карціны. Ён памятаў многа, і ранейшых маладых памятаў, і іхні лёс ведаў, а таму быў упэўнены, што шуміха пройдзе, а тое, што зрабіў ён, застанецца. Шуміха і сапраўды прайшла, але вялікія маштабныя карціны Алеся Паўлавіча пачалі пакрысе знікаць з экспазіцый, а калі і выстаўляліся, то недзе далей, у куце. А як заходзіла гаворка пра «той» этап у мастацтве, Алеся Паўлавіча абавязкова ўспаміналі.

Ён чакаў свайго часу, мудра шпацыраваў раніцаю і вечарам па скверыку, вечарамі пісаў кнігу па гісторыі мастацтва, у якой усё ставіў на свае месцы...

Але не, цяпер, стоячы ночы у адной піжаме пры акне, не ўдавалася скептычнага позірку на сваю маладосць. Як ні глядзі на яе са старасці, з самага цёплага і райскага нават месца, а пазайздросціш нават і яе холаду, і яе голаду...

Назаўтра Алесь Паўлавіч шпацыраваў, пісаў увечары, а ноччу яму зноў сніўся рыжы кот, які ўсё лазіў на кухні, бразгаў талеркамі, тупаў па падлозе, чамусьці гулка, як вожык, і сын Алёшка ў адной рубашачцы, басанож пабег туды лавіць

ката. І адтуль, з кухні, пачуўся крык, завыў воўк, хрыпла і доўга...

Алесь Паўлавіч не спаў цэлую ноч. Усё ўспаміналася, як Алёшка прасіў яго, каб прынёс салдацкую зорачку... Горад перад гэтым ужо бамбілі ноччу... Успомнілася жонка, маленькая, худая, як яна ўсё захіляла шыю каўнерыкам сукенкі, нібыта было ёй холадна... Яму цяжка было пакідаць яе, такую няшчасную і адзінокую. Калі агляну́ўся, убачыў, як ішла яна следам, усё гэтак жа захіляючы шыю каўнерыкам, а Алёшка цягнуў за сабою за хвост свайго неразлучнага рыжага ката, які расставіў лапы і не мог учапіцца кіпцюрамі за асфальт. Алёшка быў рады, што бацька прынясе яму зорачку...

Пасля вайны ў яго не засталося ні сям'і, ні родных.

І боль у грудзях, і адзіноту было не стрываць.

Не прыносіў радасці ні штодзённы шпацыр, не цягнула больш пісаць кнігу...

І калі аднаго дня дастаў з паштовае скрынкі запрашэнне з Саюза на вечар, узрадаваўся, быццам на гэтай добрай паперы, якая пахла друкарскаю фарбаю, паведамілі яму, што вярнулася да яго былая слава.

Ён нават і не думаў пра тое, што гэтыя запрашэнні, звычайна, ён выкідаў у сметніцу.

Перад адыходам на вечар Алесь Паўлавіч яшчэ раз пагаліўся, і, чырвоны з холаду, у светлым двухбортным пінжаку, ён лёгка ўзышоў на другі паверх.

У залу яшчэ не заходзілі. Мастакі курылі на калідоры, жартавалі.

Алесь Паўлавіч малайцавата вітаўся з усімі за руку, спрабаваў жартаваць. Але, мабыць, ягоныя жарты былі не смешныя ці не модныя, на іх толькі скупа ўсміхаліся і прапытваліся пра здароўе.

Набівацца ў кампанію ні да кога Алесь Паўлавіч не захацеў, з гонарам зайшоў у пустую залу і сеў на першым радзе.

Прамоўца, адзін з тых хлопцаў, якія некалі бывалі на кватэры ў Алеся Паўлавіча, цяпер стары, лысы, але прыткі дзядок, гаварыў пра юбіля-

ра, але болей пра сябе. Крыху памятаў юбіляра і Алесь Паўлавіч, і таму падняўся на трыбуну і, паказваючы пальцам невядома на каго ў залу, расказваў, як ён вучыў некалі паважанага юбіляра маляваць... У зале спачатку маўчалі, а потым пачалі гаварыць і пасмейвацца, не слухаць, і ён абарваў гаворку на паўслове...

Пад канец вечара ўзяў слова Кульбіцкі. Толькі тады, як устаў ён з-за стала, не выйшаў за трыбуну, а так і гаварыў з-за стала прэзідыума, Алесь Паўлавіч успомніў, што і на выстаўках карціны Кульбіцкага як выстаўляліся, гэтак і выстаўляюцца, і што стаяць яны цяпер на тым месцы, дзе стаялі некалі ягоныя, Алеся Паўлавіча, карціны. Таго Кульбіцкага, які ў рот глядзеў Алесю Паўлавічу, калі той слова гаварыў некалі, і пакорліва прызнаваў старшынства ягонае.

Цяпер ён падводзіў вынікі вечара, гаварыў пра вялікую задачу мастацтва, пра цяжкасці мастацкіх пошукаў, высока ацэньваў той вялікі талент, які меў іхні малады таварыш, што заўчасна памёр. Алесь Паўлавіч аж прысвіснуў — ці ж не гэты самы Кульбіцкі кляйміў тады яго ў друку? Ён тады больш выступаў пра мастацтва, чым маляваў. Цяпер Кульбіцкі аб'ектыўна даваў ацэнку, не надта ўспамінаючы пра той час, больш напіраючы на таленавітасць. І такім чынам выходзіла, што інакш і не мог скласціся лёс таго мастака, інакш не быць бы яму і таленавітым, каб усё выйшла не так, як было... Але не гэта і здзівіла, і збянтэжыла Алеся Паўлавіча — ён многага нагледзеўся за свой век — а тое, што ўсё засталося, як і было. І каб ён тады не ўдаўся ў сваю ганарлівую адзіноту, яму б сядзець на месцы Кульбіцкага, ягоным карцінам стаяць бы, як і стаялі, у пачатку выставак!

Алесь Паўлавіч ледзьве дачакаўся, пакуль скончыць гаварыць Кульбіцкі, а гаварыў ён няспешна, важка, здымаючы і трымаючы ў руках акуляры, сівавалосы, хударлявы, упэўнены ў сабе.

Дома Алесь Паўлавіч тупаў туды-сюды па кабінеце, злуючыся і на сябе, і на Кульбіцкага. І сапраўды, мала ці што там пісалася і гаварылася, а карціны-то выстаўляюцца, пра іх пішацца, яны,

аказваецца, патрэбны, а калі хто што і скажа... Жаданне не сядзець склаўшы рукі не давала супакою.

І дома ён да поўначы перабіраў папкі з архівам, павыкідаў усе артыкулы, дзе дрэнна пісалі пра яго, усе пісьмы, якія пісаліся да яго, пакінуў толькі чарнавікі сваіх пісем і свае дзённікі ды тыя шматлікія старыя пажаўцелыя выразкі, у якіх некалі хвалілі яго.

Ён знайшоў у шафе стары чахол на коўдру, сапхаў туды ўсе выбраныя паперы і ноччу спаў спакойна.

А раніцою ішоў снег. Буйна і густа. І ад гэтага стаяла нейкая прыцемкавая сцішанасць, нібы і дрэвы і дамы слухалі, як ідзе снег.

Алесь Паўлавіч весела і з апетытам снедаў, потым узяў чахол і занёс паперы ў падвал.

Калі вярнуўся да кватэры, перад самымі дзвярыма грудзі працяў востры боль. Ён ледзь не закрычаў, але стрымаўся, толькі ўпарта застагнаў скрозь зубы, у пакоі знясілена апусціўся на крэсла, пачакаў, пакуль адпусціць боль. Не, ён не такі прастак, каб узяць ды аддаць богу душу. Ён пажыве, паглядзіць, як ідзе снег, як стынуць сінія маразы, як дыхаюць белым парам у палях разагрэтыя коні з абынелымі ласкавымі пысамі, як на сонцы выгінаста блішчаць сляды ад палазоў!.. І славу пры жыцці спазнае, тую, вялікую, несмяротную!

Ён пакуль што паедзе ў вёску, паходзіць кожны дзень у лес, падыхае чыстым паветрам, пройдзе боль у грудзях. А потым ён адваюе сваё і будзе жыць доўга!

## II

Ужо больш за месяц пражыў Алесь Паўлавіч у вёсцы. І за гэты час прывык да свае кватэры — прасторнае хаты на ўскраіне вёскі, да замеценых снегам платоў, да доўгага кажуха, які дала яму гаспадыня, да вялікіх бітых валёнак, якраз такіх, як некалі ў партызанах выдаваліся толькі варта-

вым. Атрад тую зіму зімаваў у буданах, і абуць такія валёнкі было мараю кожнага.

Ён прывёз з сабою старыя альбомы з рэпрадукцыямі сваіх карцін, паказваў не толькі гаспадыні, але і ўсім, хто ні прыходзіў, і быў шчаслівы, бо людзі дзівіліся, што гэтак можна намаляваць, «якраз як сапраўднае».

Цяпер Алесь Паўлавіч шкадаваў, што гэтыя гады нічога не рабіў, не змагаўся за сваё, скруціў гэтульκі часу дарма. Але ён не надта засмучаўся, бо цяпер ужо ведаў, што рабіць.

Ён і на вясну застанецца ў вёсцы, будзе зграбаць у садзе на подсціл карове быльнёг, абрэзваць непатрэбныя галінкі на яблынях і маляваць, маляваць!

Гаспадыня не замінае яму. Яна зранку спяшае на свінарнік, прыходзіць ухадзіцца — і зноў на работу.

Алесь Паўлавіч адгадаваў бараду, стаў падобны на вясковага дзеда, і ўяўляў, як вернецца са сваімі карцінамі ў горад!..

Боль у грудзях прайшоў. Было на дзіва лёгка і добра, верылася, што бясконца будзе гэтак лёгка і добра.

Пачаліся маразы, стараватая хата выхалодвала за дзень. Гаспадыня ўзлазіла спаць на печ, а ён паверх коўдры накрываўся яшчэ кажухом. Кожны вечар ён хадзіў у клуб чытаць свежыя газеты і, калі вяртаўся, гаспадыня ўжо спала.

Гэтага разу ён толькі пачаў збірацца ў клуб, калі прыйшла гаспадыня. Бачачы, што ён збіраецца ісці, яна ні то прапанавала, ні то папрасіла:

— Можа, пачакаеце, Алесь Паўлавіч, павячэраем разам.

— Добра. А чаму так рана, Ліда? — запытаўся ён.

— Падмянілі мяне на рабоце,— адказала яна з-за шафы.

Потым яна выйшла ў сенцы і вярнулася ў хату з бутэлькаю і салам на талерцы.

— А гэта нашто? Я ж не п'ю, Ліда,— збянтэжыўся ён.

— Чуць вып'яце, а тое я і сама вып'ю,— супа-

коіла яго жанчына, ставячы на стол бутэльку. І бачачы яго збянтэжанасць, растлумачыла: — Сёння тры гады, як мой Антось памёр. Я па ім кожны год памінкі раблю. Адной толькі пачынаць цяжка, а тады, як вып'ю, добра, нагаваруся з ім!..

Гаспадыня наліла адразу па поўнай чарцы. Алесь Паўлавіч не адмаўляўся, толькі падумаў, што гарэлка халодная.

— А што з ім, з мужам вашым? — запытаўся ён.

— Ад вайны ўсё. Нейкі асколак сядзеў... Пасля вайны ён трактарыстам і камбайнерам быў. Сеяў вясною і ўвосень. Летам жаў. Увесь свой век так...

Жанчына гаварыла нібы сама сабе. Над ілбом яе сіратліва пакалыхвалася пасмачка чорных валасоў, якія выбіліся з-пад хусткі. Алесю Паўлавічу здалося, што яна крыху ап'янела, і ён заспяшаўся ў клуб.

Дадому з клуба ён ішоў пазней звычайнага. У кажусе, у бітых валёнках, па вузенькай сцяжынцы пад заінелым вішняком, па марозным, сінявата-белым, як цукар-рафінад, снезе. Ён думаў пра чалавека, які некалі жыў, сеяў і жаў збажыну, хадзіў некалі ў гэтым жа самым кажусе, і над ім было гэтае ж далёкае неба, і бясконцая настыласць... Задавальненне ў Алеся Паўлавіча было ад таго, што ён праводзіў паралель паміж жыццём хлебароба і сваім, знаходзіў у ім непарыўную еднасць сваю з працоўным чалавекам. І ён падумаў, што прыйдзе дадому, намалюе гэтага камбайнера, на полі, пры збажыне, так намалюе, што людзі будуць дзівіцца вялікай і мудрай прастаце ягонае карціны! І з гэтаю карцінаю ён застанецца вечна жыць на злосць гэтай настылай раўнадушнай вечнасці, якая звысака глядзіць пагардліва на яго з начнога неба застылымі вачыма зорак.

Алесь Паўлавіч бачыў ужо і сонечны фон сваёе карціны, і шчаслівую ўсмешку на твары чалавека, і ягоную магутную постаць, і іскрыстыя ад шчасця вочы!..

На стале ў хаце было прыбрана. Гаспадыня спала на печы. У цішыні толькі гудзеў час ад часу на сцяне электралічыльнік.

Алесь Паўлавіч дастаў з-пад этажэркі настольную лямпу-грыбок, пры якой некалі Лідзін сын рабіў урокі, выняў з чамадана алоўкі, паперу.

У хаце было холадна, на шыбах выступіў іней, і Алесь Паўлавіч падсоўваў бліжэй да лямпы рукі — каб было цяплей — і кароткімі ўпэўненымі штрыхамі накідваў на паперы эскізы будучае карціны. Ён спяшаўся, ён бачыў усю карціну, трэба было зафіксіраваць асобныя дэталі, каб не забыцца.

Аловак натрэніравана, як і некалі, лёгка хадзіў па паперы, але ўсё ж Алесь Паўлавіч стаміўся, пакуль скончыў работу, цяжка ўстаў, з задавальненнем акінуў вокам зробленае і ўявіў новую сваю вялікую карціну, намнога лепшую за ўсе яго ранейшыя, якую цяпер не будуць мець права не паставіць першую ў экспазіцыі...

Калі ўстала гаспадыня, Алесь Паўлавіч не чуў, хаця звычайна і прачынаўся.

Жанчына прыглядалася да скрэмзаных лісцікаў паперы, нічога не зразумела, пакруціла галавою, зірнула на кватаранта і спалохалася: пры яркім электрычным святле ягоны твар з высока паднятаю ўгору барадою і вялікім лбом быў мярцвецкі белы. Жанчына аж укамянела на месцы, пакуль не пачула, што Алесь Паўлавіч тоненька, смачна пасвіствае носам, з палёгкаю ўздыхнула, нагнулася, падняла з падлогі чысты лісцік паперы і закрыла ім усё, што намаляваў кватарант.

# *Прочкі*

## I

Міцька збіраўся ўпрочкі.

— Давай мне... маю тысячу! Аддавай тысячу — і нагі мае тут больш не будзе! Пайду! Па-айду! — Міцькаў голас задрыжаў, мабыць, ад жалю да самога сябе: яму, старому чалавеку, які і хату выбудаваў, і абрабіў усю дамоўку, які трымае добрую гаспадарку, даводзіцца сярод ночы сыходзіць з дому, як таму жабраку, а іншая рада не служыць.

— Ці яна мне трэба, твая тысяча? Каб была пад рукамі, то аддала б. Схаджу заўтра на пошту, аддам тваю тысячу.

Міцькава жонка, Маня, худая, высакаватая жанчына з цёмнымі ад работы рукамі, у кашулі і камізэльцы, стаяла пасярод хаты. Яе спагадлівасць і памяркоўнасць збівалі мужа з панталыку, не давалі за што прыдрацца, каб лаяць або соваць пад нос кулакі.

— Аддавай! Усё маё аддавай! А не — дэпутата прываду!

Міцька тупнуў нагою, паддаў сабе злосці і жалю, заморгаў пачырванелымі павекамі, бліснуў вачыма, як далёкімі, заблудзіўшымі ў тумане, а таму слабымі агеньчыкамі.

— Або ж я табе не даю! Бяры, што хочаш бяры!

— Посцілку мне давай! — Міцькаў голас сарваўся на плач.

Маня выйшла на кухню, прынесла з палка посцілку — у вялікія клеткі, якую ткала сама, пасля вайны, калі не хапала крамніны. Тады зімою ў хатах у людзей стаялі кросны. Яна прыпынілася на нейкі момант, успомніла, як староннім вокам

убачыла, і сябе, маладую і лёгкую за кроснамі, і Міцю, чарнавалосага, з насмешлівымі карымі вачыма, пачула, як мяккім драўляным постукам пастуквала сукала, на якім Міця сукаў цэўкі. І Зінка іхняя, маленькая яшчэ, як дражнячыся з бацькам, прыстаўляе палец да цэўкі, якая прыемна слакоча яго, і ўсміхаецца...

— Пасцілкі шкода? Поедам мяне ўсю жызню ела, усю жызню мне загубіла! Век як парабак у цябе быў, і цяпер як парабка з хаты выпраўляеш!

Міцьку шкода было самога сябе, свайго жыцця, якога назад не вернеш і якое змарнавалася, а вінавата ў гэтым была толькі жонка, якая не любіла яго, якой ён патрэбен быў толькі як парабак. Зараз гэта Міцька ведаў цвёрда.

Раней ён не мог пайсці з дому, бо шкадаваў дачок, трэба было выгадаваць іх. Дочкі параслі, замужам ужо. Цяпер яго нішто не звязвала, цяпер яму можна ісці.

— Пайду! — уголас крыкнуў Міцька.

— Ага. Ну ідзі. Я ж нічога не кажу,— пакорліва згадзілася Маня.

Добра, што Міцька не задзіраўся і не кідаўся біцца.

Зыбаючыся, Міцька разаслаў на падлозе пасцілку, загадаў:

— Падавай мне ўсё маё!

— То мо сам бяры?

— Я табе сказаў: падавай!

— Падам, падам, не крычы.

Падыходзячы да шафы, новае, цяперашняе, на трое дзверац, Маня мелькам убачыла сябе ў старым пасляваенным люстры, якое вісела на сцяне,— маршчыністую, худую, азірнулася на мужа — сухенькага, з худым вастраватым тварам, парослым сівым, як соль, шчаціннем, з рыжаю старою вушанкаю, адно вуха якое матлялася, як у дураслівага шчанюка, у картовых, выцягнутых на каленях пухірамі штанах, у літых гумовых ботах. Няўжо гэта ўсё, што засталося ад таго чарнявага вясёлага мужчыны, якога яна любіла і ад якога нарадзіла і з якім выгадавала і выправіла ў людзі Зіну і Клаву? Успомніла дачок, абедзвюх гараджа-

нак, якія, здаецца, ніякага дачынення не маглі мець да іх, дваіх старых, якія разводзіліся сёння сярод ночы...

— Што, перадумала ўжо, ведзьма? Шкода стала? Давай я сам, сам усё забяру!

Міцька папхнуў жонку ўбок, шарахнуў насцеж дзверцы шафы, што яны аж ляпнуліся аб падаконнік, і на падлогу выпаў з замка ключык з чырвонаю стужачкаю.

— Усё маё! Нічога не пакіну! Усё забяру! Сядзі ў голых сценах, як Хама той!

Міцька кідаў на посцілку з шафы і касцюмы, якія прывозілі яму зяці, і пінжакі, і рубашкі. Прывезенае адзенне Міцька пакідаў на пазней, бярог, хадзіў у абшарпаным пінжачку да таго часу, пакуль Маня не выкідала яго куды, каб не знайшоў.

— Яшчэ ж і той пінжачок забірай, з медалямі. А то на памінкі як пойдзеш, другі раз не пусцяць без медалёў! — прыпомніла Міцьку Маня, як ён аднаго разу хадзіў на памінкі з медалямі.

— А, сцерва! Ты яшчэ смяешся? Пасмешышча найшла? Я цябе... Я цябе абдзяру, як ліпку, я цябе правучу, як родзіну любіць! Пажывеш без Міцькі!

— Хіба ж я не даю табе чаго? Усё забірай. Хоць і ложкі з хаты павывалакай.

— Усё павыношу... Я цябе правучу!..

— Дзіва што правучыш! Я і не сумняюся. Каторы год ужэ вучыш.

— Маўчы!..

— Маўчу. Я табе ўвесь век маўчу.

— Пайду па дэпутата! Калі ты такая сволач!.. Пайду, пры дэпутаце падзялюся! І нагі мае больш тут не будзе!

Міцька шмаргануў носам, азірнуўся навокал, угледзеў пад сталом сваю куфайку, шырока расставіў у бакі рукі, як куру ловячы, нагнуўся, падняў яе, доўга цаляў у рукаў, цяжка соп і, калі справіўся з работаю, яшчэ пагразіў:

— Я цябе на ўсю жызнь правучу!

Маня чула, як выйшаў ён на двор, грукаў дзвярыма, смаркаўся і нешта бубніў сам сабе.

## II

Маня абышла вакол клунка. Яна ведала, што Міцька нідзе не дзенецца, пашлутуецца па вуліцы, па двары — і вернецца. Сама вясна, гразь і холад, гэта не лета, што можна альбы-дзе пераспаць. А ўжо позна, спяць людзі. Ды і не першына гэтакая ягоная бура, гэтакі спектакль у хаце. Прывыклі гэтыя сцены і нагледзеліся ўсякага.

Але нешта не давала спакою. Нібыта чужымі вачыма яна глядзела і на недарэчны клунак пасярод хаты, і на сябе, старую, сівую. Маня азірнулася наўкруга: і на чыста аклееныя новымі шпалерамі сцены, і на гардзіны, і на тэлевізар, і на блішчастую, палакіраваную падлогу, як упэўнівалася, што і хата — як звон, і ў хаце — як у вулеі — усяго. Маня выключыла святло ў зале, пакінула толькі на кухні, прыслухалася, ці не чуваць гаспадара на дварэ.

Але на дварэ моцна шумеў толькі густы вясновы вецер.

Маня вярнулася ў спальню і прылегла на ложак. Яна толькі ўчора вярнулася ад Зіны. За гэтыя тры дні Міцька прапіў пакінутыя яму грошы і палавіну свае пенсіі, не карміў ні карову, ні парсюка. Маня вярнулася дадому не ў пару: Міцькава нутро яшчэ не змаглося ад гарэлкі, і ён не жадаў яшчэ бачыць жонку.

Жыла дачка ў новай трохпакаёвай кватэры вокнамі на лес. Сама высокая, як маці, хударлявая, па бацьку чарнявая, выдавала маладжаваю і лёгкаю, хоць у валасах праклюнуліся першыя срэбныя праблiскі. Старшы даччын хлопец хадзіў у восьмы клас. Ведаючы Міцькаў нораў, Маня прыехала да дачкі на дзень, але заседзелася аж на тры: утульна і спакойна было ў даччынай сям'і. I цяпер, лежачы на пасцелі, Маня ўспомніла, як, прачнуўшыся рана, убачыла, што дачка ходзіць па кватэры ў пантофлях і халаце, нешта перастаўляе, пагруквае посудам на кухні, потым вярнулася ў спальню да мужа. У прачыненыя дзверы відно было Мані, як спаў зяць, звесіўшы з ложка вялікую, шырокую ў далоні шафёрскую

руку. Зіна прысела побач на ложак, па-мацярынску, шкадуючы будзіць, глядзела на мужа, асцярожна, як сына, пагладзіла па галаве. Ён усміхнуўся скрозь сон, не расплюшчваючы вачэй, павярнуўся, вобмацкам знайшоў жончыну руку, прытуліў яе да шчакі, пацалаваў. І пасля Маня бачыла, як, выходзячы, Саша пацалаваў жонку. Яна нават падумала тады, што старыя ўжо людзі, і як маладзёнкі якія...

Нібы штосьці пераварочвалася ў душы ў Мані ад гэтага ўспаміну. І цяпер здавалася, што і не ў сваёй хаце, не на сваім ложку ляжыць яна. Каб гэта хто пасля таго, як адышоў немец, сказаў ёй або яе мацеры, што гэтакая хата будзе ў іх пад бляшаным дахам і гэтакая ўся дамоўка выбудавана! Жылі яны ў паграбе, які толькі і ацалеў на сядзібе, пасля таго, як нямецкія танкі з шашы стралялі па вёсцы і спалілі яе. Тады ж асколкам параніла ў грудзі маці. Асколак прайшоў навылет. Маці ўсё кволілася, што нешта баліць у грудзях, і памерла скора пасля вайны. Бацька так і не вярнуўся з партызанаў, магілы нават нідзе не засталося на зямлі — загінуў у балоце, у часе апошняе блакады.

Міця таксама быў у партызанах, адтуль пайшоў на фронт і, як скончылася вайна, вярнуўся дадому, пад восень ужо. Старыя бацькі яго згарэлі разам з хатаю, у якую трапіў снарад. Маніна маці і ўгледзела яго на пажарышчы, прывяла да сябе.

Вечарам пры газоўцы — у бутэлечку ўстаўлены кудзельны кнот,— якая стаяла на перавернутай уверх дном бочцы, што замяняла стол, ляжала прынесеная Міцем яда. Сам Міцька наліваў з флягі ў конаўку спірт, піў, нічога не еў і ўсё дапытваўся ў маці:

— Цётка, скажэце вы, чаму так несправядліва на свеце? Чаму тыя, каго дома чакаюць, пабітыя асталіся і ў блакадзе, і на фронце? А я — жывы...

Пазвоньвалі медалі на грудзях у яго, і ён стагнаў ці то з гора, ці то з болю ў параненай руцэ, якая яшчэ не загаілася зусім...

Маніна маці памірала ўжо ў хаце. У першай,

скіданай дачасна, каб толькі выбрацца з пограба. Маці памірала лёгка, спакойная за дачку — яна тады ўжо жыла з Міцем і хадзіла першым дзіцем...

## III

Маня ачнулася ад успамінаў, бо на двары загаварылі мужчыны, пагрукалі ботамі на прыступках пры верандзе. Ужо з сянец Маня пачула Міцькаў голас:

— Ну зайдзі! Калі я кажу, што трэба, зайдзі!

Маня ўстала, выйшла на кухню.

Першым увайшоў Федзя Адасёў, які вучыўся некалі разам у школе з маладзейшаю Манінаю, з Клаваю. Цяпер ён рабіў звенавым на трактарах, даглядаў бульбу, за гэта яму далі ордэн і кожнага году пісалі ў раённай газеце, як ён даглядае і ўбірае бульбу.

— Чаго вы мяне ў хату ведзяце? Вядзеце ў хлеў,— патрабаваў Федзя, павітаўшыся з Маняю.

— Пачакай, Федзя! Я табе ўсё раскажу, усю маю жызню і ўсю маю абіду, каб ты ведаў!

— Ноч, дзядзька, ужэ!

— А што гэта ён ад цябе хоча? — запыталася Маня ў Федзі.

— А, нарыца! Не спіцца? Баішся, што ўсё забяру? Забяру, вымету!..— Міцька грукнуў кулаком па стале. Цяпер было перад кім выступаць яму, хацелася паказаць сябе перад староннім чалавекам, сваю мужчынскую ўладу і незалежнасць.

— Давай усё маё! Казаў, што дэпутата прывяду — і прывёў!

Міцька ўсхапіўся з-за стала, грукнуў кулаком, як пацвярджаючы свае словы, аж прысеў-чэкнуўся.

— Дзе мой клунак?

— Тут клунак, чаго крычыш? Ляжыць на падлозе.

Федзя крыху збянтэжана пазіраў то на Маню, то на Міцьку, здагадваючыся, што да чаго, і не ведаючы, што рабіць.

— Аддавай маю тысячу! Пры дэпутаце гавару — аддавай! — зноў пачаў зрывацца на плач Міцькаў голас.

— Ціха, дзядзька, брыдка гэтак,— няўпэўнена абазваўся Федзя.

— Я ж табе казала ўжэ, што грошы на кніжцы. Заўтра знімеш і забярэш.

— Аддавай кніжку!

— Вам жа, дзядзька, ніхто з кніжкі не дасць. Яшчэ і ў міліцыю завязуць,— уступіў у гаворку і Федзя.

— Мяне? У міліцыю? Я кроў за Савецкую ўласць праліваў! Хто пасмее мяне ўзяць у міліцыю? Месца таму на зямлі не астанецца! Ты знаеш мяне, Федзя!

— Чаму ж не знаю, дзядзька.

— Скажы гэтуй сцерве, хай аддае мне мой клунак, усё маё! Не хачу, каб і нага мая тут больш была! Госпадзі, каб і не бачыць нічога! Я ж парабак тут. На ўсіх век рабіў і рабіў, і ўсім усё мала!

— Бяры, бяры! Я ж табе і пінжак твой з медалямі ўвязала, будзе ў чым па сталах поламі месці!

Маня не стрывала: брыдка было перад старонnім чалавекам, які ў дзеці ім гадзіўся, за ўсё, што тварылася ў хаце. Ды і не баялася Міцьку, што кінецца цяпер да яе з кулакамі.

— Федзя, сынок! Ты бачыў, якая сцерва? А я з ёю жызню жыву!

Міцька ляпнуў аб зямлю шапку і не стрываў, заплакаў з жалю да самога сябе.

Федзя скрывіўся, пераступіў з нагі на нагу: прыкра і непрыемна ўсё гэта, але і пайсці раптам, нічога не сказаўшы, не выпадала. А Міцька шморгаў носам, грукаў кулаком па стале, ківаючыся з боку на бок. І на яго цяжка было глядзець, як на калеку, якога і шкода і якому нельга нічым дапамагчы.

— Маўчаць! Хто смее з жызні мае прапашчае смяяцца? — Міцька ваяўніча падхапіўся на ногі.

— Ніхто і не смяецца. Паплач, паплач сабе.

— Гэта не слёзы! Гэта кроўю я сваею плачу!

Міцька зноў шмаргануў носам ад жалю, што выплаквае ўсю сваю кроў.

— Гарэлка гэта плача, а не ты плачаш.

— Смяешся? Пайду, у свет пайду! Нажывешся без мяне, нацешышся! Паглядзім, як ты без мяне папануеш! Пайшлі, Федзя! Ты скажаш усім, як яна мяне жыўцом з хаты выжыла.

Міцька насцеж шаснуў дзвярыма ў залу, шмаргануў за клунак, але не змог падняць яго, стаў ракам, патупаў нагамі, мацуючыся, зыбнуўся і сеў на клунак.

— Дзядзька, дзядзька! Як вам не брыдка! Дзеці гэтакія параслі, гэтакія ўнукі ўжэ. Зяці на машынах прыязджаюць. Вам жа толькі цяпер жыві і радуйся. А вы за гарэлкаю свету божага не бачыце, светам гнюсіце. Дзяцей бы пасаромеліся! Як вам не брыдка прыйсці паднімаць мяне з пасцелі, гаварыць, што карова захварэла. Мне раніцаю на работу, а я к вам, як на пажар, бягу! Лажэцеся, ды праспецеся, ды троха падумайце!

— Федзя, сынок, і ты мяне вучыш? Я сам каго хочаш навучу... Думаеш, я не ўзяў бы ўнучка за руку да не павёў бы ў лес? Я ж на ўсіх, колькі жыву, толькі і раблю. Ты от уласць і ты мне скажы, чаму мне на старасць толькі і радасці тае асталося, што гарэлкаю вочы заліць, чаму гэта дзеці мае ўсе ў некія людзі, усе ў некія людзі!.. Ты мне скажы, раз ты ўласць!

Міцька намёрзся, цяпло і гарэлка бралі сваё. Мякка і добра сядзелася на клунку, нават песня не выходзіла заліхвацкая, а больш напрошвалася нешта працяжнае, жаласлівае:

Памру-у-у, у чожай зямлі за-а-роюць...

Міцька заплакаў, заспяваў, прыслухоўваючыся да свайго падвывання. Яму, мабыць, здавалася, што жалкуе яго песня над усёю зямлёю.

— Закапаюць, закапаюць, а як жа ты думаеш? Без канца светам паскудзіць будзеш? Выеш, як воўк, сам сябе шкадуючы,— напаўголасу пагразіла на мужа Маня. Яна ведала, што цяпер ужэ Міцька бушавацъ не будзе, што наспяваецца, наплачацца і засне.— Ты ж, Федзя, хаця людзям нічога не расказвай. І не злуй на яго. Бач, як пра-

паў чалавек на старасць год. Ён ужэ ўгамоніцца, конь гэты!

— Да не, цётка... З цвярозым ім я пагавару,— супакоіў Маню Федзя і пайшоў.

Маня замкнула на засаўку сенцы, пастаяла, паслухала, як галасіў Міцька, як нешта бубніў, на яе, на жонку. Холад у сенцах, трэба было ісці ў хату.

Калі ўвайшла ў хату, Міцька, развязаўшы клунак, ляжаў на сваім дабры.

— Ідзі мо на палок ляж. Там ужэ пападаеш нагамі ў печ.

— Пацалуй... хітрая на маю голаў знайшлася! Я дабро свае пільнаваць буду! А раніцаю па-а-айду!

— Пойдзеш, каб з цябе душа выйшла!

Маня выключыла на кухні святло, зайшла і легла на ложак, чула, як яшчэ мармытаў, заспеўваў гаспадар, пакуль не суцішыўся і не супакоіўся.

## IV

Ціха стала ў хаце, як у вуху. Маня нават дзіву далася, што гэтак можа ціха быць у вялікай будыніне. Ні шашалю не чуваць, ні мышы за шпалерамі. Хаця мышэй ніколі не было ў іх: пазы пазамазваны глінаю, падлога добра прыпушчана да сцен, і столь добра прыдрана. Хата як звон! Век яшчэ прастаіць. Ад думкі пра хату, пра той век, які стаяць ёй, схамянулася — а самой колькі ж жыцця засталося? Маленькі нейкі асколачак ад усяго, як ільдзінка, якая растае, растае на сонцы. Якое то сонца, колькі тае ільдзінкі? А ўсё жыццё неставала часу, усё спяшаць, спяшаць трэба было. Цяпер, як можна прыпыніцца, агледзецца і жыццю падзівіцца, аказваецца, жыць больш і не засталося часу. Колькі пра смерць гаварылася, лёгка і проста: што ўсе там будзем, што на ўсё свая пара і свой час. І гаварылася, і думалася, як пра нешта недасяжна далёкае... А цяпер вось ён, краёк. Хочаш — прыпыніся, агляніся, супакойся душою, калі зможаш...

Маня села на ложку, прыслухалася. Вясновая ноч густа шумела ў раскошным бярозавым вецці. Скора ўжо адступіцца зямля ад марозу, заварушыцца, пойдзе пад карою халодны, жывы сок, набухнуць пупышкі. Ночы тады будуць цёмнымі, як сажа, а зоркі чыстымі, святочнымі. У гэтую пару і ў чалавека кожнага году прачынаюцца, ажываюць невядомыя сілы, у якім бы веку ні быў чалавек, нават у старога зварухнецца нешта ў душы, як знясіленая доўгім выраем птаха.

Маня ўстала, прайшла па хаце. Хацелася хоць да каго сказаць слова і ведаць, што яго пачулі. Крыўда падцяла душу: усё рабіць умела, век рабіла, выбудоўвалася, дзяцей у людзі выводзіла, багацця нажыла. А на самым краі жыцця няма каму сказаць слова, а на самым краі жыцця азірнуўшыся — і не было жыцця, толькі чаканне яго і спадзяванне на тое жыццё і на шчасце, бо колькі ні жыве чалавек, як ні жыве ён, а спадзяецца на шчасце.

Міцька сонна застагнаў, цяжка, як ад доўгага болю. Маня за апошнія гады прывыкла да яго выпівак, да ягоных выбрыкаў, але не магла прывыкнуць да гэтых доўгіх стогнаў. Яна памкнула падысці да гаспадара, але ён заціх, і яна моўчкі стаяла. Трэба ж было, каб гэтак раптам перавярнулася перад ёю ўсё жыццё... Абакрадзенае вайною дзявоцтва, нішчымныя, з работаю, ад якое набягаюць крывёю вочы, пасляваенныя гады... Але ўсё роўна як прыгрэтая, пазалочаная сонцам аблачынка на далёкім небасхіле, нешта цёпла і радасна варухнулася ў душы, нейкім слабым, далёкім успамінам успомнілася тая Міцева ласка, тыя ночы. Аж горача зашумела ўвушшу ад маладых успамінаў — і сорамна, і соладка зрабілася...

Маня раптам успомніла і той вясновы надвячорак. Ніколі не ўспаміналa, а цяпер нібыта перад вачыма ён устаў. Ціхі быў надвячорак, хараша заходзіла сонца, пахла чуць душнавата маладою травою, лісцем, упарыстаю, цёплаю раллёю. Яна тады падгрэбла двор, на якім, хоць і прыбірала ўжо раз, засталіся трэскі, маленькія, насохлыя — бойся ступіць нагою. Тае вясны яны толькі ўлезлі

ў хату. Сцены яшчэ свежа пахлі дрэвам і мохам, які нават не закanапачаны ў пазах заставаўся. Прыбраўшы на двары, яна ўзяла мяшок і пайшла на бераг рэчкі, дзе ўзяліся расці кусты маладое крапівы, нажаць яе свінням.

Калі вярнулася дадому, убачыла, што Міця прыбраўся ў чыстае: у прынесенае з войска галіфэ і суконную даўгаватую — тады мода гэтакая была — гімнасцёрку, чакае яе.

— Дзе гэта ты ходзіш? Жывы будуць свінні. Збірайся...

— Куды гэта? — яна здагадалася, успомніла, што Юрай сёння, што трэба на росу ісці. Але яе заела за жывое, што Міця нічога не робіць, быццам і работы няма дома, а выфранціўся і сядзіць, чакае.

— На росу.

— От гэтакая бяседа, што няма як і не пайсці! Змітровічы, Жаўрыдавы і той год не былі. Не гэтакія мы багатыры, каб на ўсе бяседы дастачаць. Ідзі дзяцей лепш дадому прыштыр.

— Пачакай, як гэта?

— О вот так! Прыбраўся!

— А што ж мне і век зжываць у лапленых штанах? Я і па лясах бадзяўся, і на фронце стаяў! А цяпер каб не мець як і з людзьмі пасядзець? Ты што, саўсім ужэ абнаглела з гэтаю работаю? Збірайся!

— Ото спужалася!

Яна не баялася яго, ведала, што зробіцца гэтак, як яна захоча. І таму не стала больш і гаварыць, завярнулася і пайшла ўходжвацца, карміла свінней... А калі агледзелася, Міці не было дома.

Паклаўшы дзяцей спаць, яна таго вечара сядзела, чакала Міцю. Але не дачакалася, на злосць яму падперла з сярэдзіны калом дзверы — хай папросіцца, пастукае, калі яго на гулі гэтак пацягнула.

І не магла заснуць — маладая, ласкавая ноч ішла, што, здавалася, грэх і спаць.

Спрасонку чула яна, як прыйшоў Міця, як першы раз упэўнена, моцна плячом штурхануў у дзве-

ры, потым, як дзівячыся, памацаваў асцярожна. Але дарэмна яна чакала — не крануў больш, не стаў ні прасіцца, ні гразіцца, ні лезці ў хату...

З таго вечара і не стала між імі добрага слова, нават у вочы развучыліся глядзець адно аднаму. Работу рабілі, дабро нажывалі, бо трэба было рабіць.

І ўспамін быў, як другі бераг, далёкі ад сённяшняга яе берага. А між гэтымі берагамі як бытта чорная прорва, таму і берагі зчужэлі.

Маня абышла вакол гаспадара, прыслухалася. Ён часта і цяжка дыхаў. Нагнулася, правяла рукою — ці не ўткнуўся тварам у лахманы, вярнулася да ложка, легла.

Не спалася.

Шумела, плыла ў ветры вясновая ноч, недзе высока ляцелі дзікія гусі, гэтак высока, што відны былі ім зоркі, якіх не ўгледзіш з зямлі, закрытае воблакамі. Доўгая яшчэ ноч, многа можна перадумаць старому чалавеку. Як пра добрае думаць — неўзаметку ноч праміне, а пра горкае — годам здоўжыцца...

## V

Прачнулася Маня пазнавата. Міцька прачнуўся раней за яе, схадзіў на парог ганка, напіўся вады, клунак схаваў пад палок, зняў боты, акрыўся куфайкаю і лёг на палок дасынаць.

Іншым разам Маня дала б яму прачуханца — цвярозы Міцька рук не распускаў. Але гэтае раніцы ўходжвалася ціха. Гэта і ўстрывожыла Міцьку, не дало спакойнага сну.

Маня несла вядро мяшанкі свінням, калі пачула знаёмы голас:

— Добрае раніцы, цётка Маня.

Брыгадзір, малады, з чырвоным, як рыжык, тварам, стаяў ля варот. Ніз чорнае курткі не сыходзіўся зашпіліцца на яго жываце.

— Я хацеў, каб дзядзька пайшоў памог сечкі ўрэзаць, а то няма каму.

— Добра, Міхаіл, скажу.

— Скажэце, што я прасіў.

Міцька тым часам стаяў ля акна, чуў жончыну гаворку з брыгадзірам: быць таго не можа каб, жонка не прывяла брыгадзіра паглядзець на яго, як звычайна. Але Маня пайшла да хлява. Міцька разгублена мацнуў за кішэню, дзе ў яго засталася яшчэ траячка, ухмыльнуўся, узяў у сенцах кажушок і няўпэўнена палез на печ.

# *Песня*

— Чаго гэта ты ўстаў не ў пару?

Ён сцепануўся ад нечаканасці, разгублена агляну́ўся: Настася стаяла ля ложка басаnож і адзявалася.

— Што гэта цябе зранку да акна прыляпіла? — зноў запыталася сястра, спраўна закруціла вакол стану спадніцу.

— Выспаўся. Старому і сну няма.

Сястра нічога не адказала: зусім слабым і нядужым здаваўся ён тут, у вёсцы,— па-старэчаму сухенькі і чысценькі самаўпэўнены гарадскі дзядок. Дзе ўжо ў яго пытацца здароўя! І як гэта ён надумаўся ў такую слату ехаць у гэту глуш? І пісем жа не пісаў — маці толькі некалі бывае ўспомніць, што недзе Паўлік яе «вялікім» чалавекам стаў. Настася ўжо і не думала, што жыў ён яшчэ недзе, гэты невядомы яе брат, а ўчора ўвечар, у дождж, заявіўся.

Брата пытаўся, а пра яе не ведаў!..

Павел зноў завярнуўся да акна. Ля пачарнелага ад вільгаці плота стаяла рабінка, і на яе чырвоных ягадах віслі цяжкія кроплі.

Было чуваць, як Настася мылася ў мыцельніку, потым пачала падпальваць у печы, выйшла на двор, мабыць, выпусціла з хлеўчука курэй, бо раптам на варотах з'явіўся залацісты вялікі певень, залопаў крыламі, коратка кукарэкнуў і нечага спужаўся, саскочыў на зямлю, азірнуўся, выцягваючы шыю...

Вялікі чырвона-залацісты певень са скрываўленым і звіслым набок грэбенем кінуўся біць яго,

і ён закрычаў спуду. На крык з хаты выбегла маці з хвартухом у руцэ і пачала адганяць пеўня, лупцуючы паскамі, а той не хацеў здавацца, і толькі калі маці добра такі даняла яго, закудахтаў ад болю і кінуўся ўцякаць.

Маці выцірала яму слёзы, і па руцэ яе з ранкі буйна кацілася крывінка...

Як гэта было даўно! І маці тады была ўдвая маладзей, чым ён цяпер.

— Ты б малака хоць пакуль выпіў,— паклікала Паўла з кухні сястра.

Яна змахнула хвартухом табурэтку, але ён не сеў, стоячы выпіў паўлітровы эмаліраваны кубак сырадою.

— Дзякуй, Насця,— падзякаваў ён, сумеўся гэтай сваёй далікатнасці і выйшаў у чысты пакой, у задуменні абышоў вакол круглага стала, зазірнуў у люстэрка, што стаяла на ім, паправіў гальштук, які з'ехаў набок.

Позірк яго ўпаў на рамкі з фотакарткамі, якія віселі над вокнамі. Ён падышоў бліжэй, пачаў углядацца. То хлопцы недзе на танцах, ля плота на вясковай вуліцы,— у шырачэзных штанах і кашулях з закасанымі рукавамі... Лупатае немаўля на дыванчыку старанна кусае палец на назе... Насцярожана застыў на фатаграфіі юнак у новым касцюме, з гальштукам-лапаткаю на грудзях. Ах, як няёмка і нязвычна яму ў гэтым убранні!

А вось пажоўклы здымак: мужчына ў дабротным галіфэ, у доўгай, чуць не да каленяў, гімнасцёрцы, перахопленай камсастаўскай папругаю, стаіць, паклаўшы руку на спінку крэсла. Аж свяцацца наглянцаваныя боты!.. Два дзядзькі ў кажушках, пры зброі — аўтамат у аднаго на каленях, у другога — за плячыма вінтоўка,— кураць самакруткі і, мабыць, не здагадваюцца, што іх здымаюць.

Здымкі большасць старыя, цьмяныя. І рамкі абклеены палоскамі белай паперы ў зубчыкі. Папера пажаўцела і пасохла.

І нешта адно няўлоўна-падобнае ў рысах твару і гэтых дзядзькоў, і юнака: неяк аднолькава глядзяць іх вочы, аднолькава акрэслены падбародкі...

«Няўжо гэта Настасін такі? — падумаў ён пра юнака.— А то мо браты?»

— Уключы радзіва, Павел! — папрасіла з кухні Настася.

Ён уключыў невялічкую пляскатую радыёлу, ад якой паўз бэльку вілася расцягнутая залацістая спружынка антэны. Ігралі скрыпкі, і мелодыя была лёгкая і балючая, як даўні, прыглушаны часам успамін.

Павел падышоў да ложка, выцягнуў з-пад яго свой чорны лакіраваны чамадан з жоўтым замком-«маланкаю», паклаў яго на ложак, расчыніў. Усміхнуўся — падарунак вёз толькі аднаму брату, адрэз на касцюм...

...Братава калыска вісела ля печы, над палком, насланым з дошак. На адной з вяровак быў раскудлачаны вузел. Ён, калі хацеў паглядзець на брата, станавіўся на палок і чапляўся рукою за гэты вузел, цягнуў да сябе калыску. Калі толькі маці бачыла гэта, хапалася за хвартух, хлёсткія паскі якога ён добра ведаў.

— Куды пабраўся? А каб цябе кроўная доля! Дзіця выкінеш!..

Стала горача ад думкі, што Настасі нічога не ўзяў. Ніколі б і не падумаў, што ў яго ёсць яшчэ і сястра, і другі брат яшчэ быў. І ў самога яго прозвішча другое, не бацькава,— Ляткоўскі.

Яшчэ малога яго некалі забраў да сябе пан Ляткоўскі, даў сваё прозвішча, вывучыў на спевака... Цэлае жыццё прайшло, рэвалюцыі, войны... Паўлу нават і не верылася, што недзе і сапраўды была тая вёска, і тая калыска з братам. Жыццё пражыў...

Яшчэ ўчора, калі ішоў ад шашы па гразкай восеньскай дарозе, зразумеў, што не было чаго ехаць яму ў гэту глуш. Прамоклі ногі, і не хапала толькі прастудзіцца і захварэць. Не, як можна было яму, старому, бітаму жыццём, паддацца спаку-

се паказацца дадому, пафарсіць... І давялося пытацца ў людзей, а пасля, мокраму, зліняламу, як кату пад дажджом, тлумачыць незнаёмай жанчыне, што ён яе брат, той самы, пра якога некалі гаварыла ёй маці!..

Настася затупала да стала. Прынесла на талерцы горку блінцоў, яешню і печанае сала, гуркоў, бульбы, якая густа парыла, потым насіла кілбасу, сырое сала, нібы збіралася на добрыя госці.

Павел глядзеў на яе, і зноў пачала быццам прыходзіць заспакоенасць і лагоднасць — і добрым быў шэры восеньскі дзень за акном, рабінка, далёкі лес...

— Нашто гэтулькі? — здзівіўся ён.

— А то ж шкадаваць буду! У мяне ж есці няма каму. Хіба Шура з сям'ёю ў госці наедзе,— адказала яна і паставіла на стол гранёныя стограмоўкі.

Ён паглядзеў на яе, мажную, са спакойным круглым тварам, нібы не было за плячыма больш шасцідзесяці год, на яе вялікія рукі...

— То садземся, паснедаем.

Яна скінула хустку, павесіла на біла ложка. Яе густыя пасівелыя валасы былі роўна зачэсаны і закручаны на патыліцы.

— Ну давай, братка, за ўсё, што перажылося і каб яшчэ жылося! — падняла яна чарку.

Ён глядзеў, як яна спраўна выпіла гарэлку, і падумаў, што калі вып'е, то ап'янее. Адпіў ён некалькі глыткоў. Яна толькі глянула на яго і нічога не сказала.

— А я Антосю на касцюм прывёз,— пачаў ён.

— Дзе яму той касцюм! Мо і касцей ужэ німа. Яны ж са Сцяпанам разам і леглі.

— Пра цябе і Сцяпана я не ведаў... А дзе іх пахавалі?

— Хто яго ведае. Іх, казалі, ранілі, як на дарогу хадзілі, немцы жывымі пабралі. Замучылі недзе. За гэту вайну тут уся зямля магілаю стала. Столькі палажылі!

Сястра гаварыла проста, спакойна, як пра будзённае.

— Мне ўжэ после іх картачку людзі перадалі, после вайны.

Настася паглядзела на рамку з фатаграфіямі:

— А гэта мой стаіць. Яшчэ як прадсядацелям сільсавецкім быў. Год толькі і пабыў, адале і злёг. Збіты быў, зранены...

— А сем'і братоў?

— Спалілі. Тады ж тут усіх палілі. Акружылі і запалілі. Гэта ўсё пасля вайны адбудавалі. А ты што робіш там? — запыталася сястра.

Павел разгубіўся.

— Спяваў... некалі. А цяпер нічога.

— З нашага роду ўсе галасістыя. А грошы як зарабляў?

— Спяваў...

— А-а! Дак гэта як арціст?

— Так. А пра цябе, прабач, нічога не ведаў. Адрэз хоць хлопцу свайму вазьмі.

— Нашто ён яму! Ён і сам інжынер, хватае ўсяго.

— Не павязу ж я назад! Пакладзі хоць...

— Да ўжэ ж... Ну, то дзякуй, Павел!

Паўлу не хацелася больш есці. Ад выпітага забалела галава.

— Астаўся б ты ў мяне. Пагуляў бы, патаптаўся ля дому, пад'еў усмак, паспаў, а то — што цень, як ветрам не паваліць,— зноў загаварыла сястра, і ў голасе яе была спагада.

Хацеў адказаць, што нельга яму. І што ён рабіў бы тут сярод гэтага лесу, гразі? Увесь век пражыў у горадзе. А Настасі і праўда ён жаласлівы ў сваім убранні, па-гарадскому і кволы.

— Няма як, Настася,— адказаў ён і ўстаў з-за стала. Нечаму зрабілася так балюча і маркотна, што ўваччу навярнуліся слёзы, і каб не заўважыла сястра, ён нахіліўся над чамаданам, пачаў вымаць пакупкі.

— Якія гэта ў цябе пласцінкі?

— А, гэта мае арыі,— адказаў ён.

— А я думала: вальцы. Вольчыны пабілі маю пласцінку. «На сопках Манжура». Вот я ж любіла

яе слухаць! Казалі адкупяць, да ўсё не збяруцца.

Павел прамаўчаў і сунуў пакунак назад у чамадан. Гэта былі яго любімыя арыі, і запісаны яны ў даўні час, калі ён «грымеў» і не ўспамінаў пра далёкую лясную вёсачку...

— Мо пайду, запрагу каня? Куды ты з чамаданам пойдзеш!

— Не трэба! Правядзеш мяне лепш,— запярэчыў ён. Яму не хацелася заставацца аднаму ў пустой хаце, захацелася хутчэй пайсці.

Па вуліцы ішлі побач. Настася ў новай куфайцы, у гумавых ботах, ступала збоку паўз сцежку на рэдзенькай гразі.

Павел уцягваў галаву ў каўнер плашча і шкадаваў, што не ўзяў шалік. Ступаў ён па старых слядах на сцежцы — было сушэй. Чаравікі, якія Настася была паставіла ноччу на печ, ссохліся і ціснулі ногі. Капялюш Павел нацягнуў на лоб,— каб не сагнаў вецер,— думаў, што трэба нешта загаварыць да сястры, але не ведаў пра што, і толькі яшчэ больш уцягваў галаву ў каўнер паліто.

За вёскаю, цярэспаля, да самае шашы, вілася бліскучая ад вільгаці, выбітая нагамі сцяжынка, па якой дзеці бегалі ў школу.

Настася спынілася, паставіла на вытаптаную прыдарожную траву чамадан.

А Павел усё думаў, што б сказаць, адчуваў, што нешта яшчэ забыўся,— і не мог успомніць. Ён не заўважыў, калі спынілася сястра, і ўсё ступаў наперад.

— Павел! — абазвалася Настася.

Ён разгубіўся і вінавата падышоў да яе. Твар сястры быў спакойны, як і тады, калі яна падавала на стол, і калі пакавала яму ў чамадан і кілбасу, і яблыкі,— навошта яны яму, калі хапае і грошай? Але ён не адмаўляўся: баяўся пакрыўдзіць.

— Ну, то хай цябе бог сцеражэ! — спакойна сказала Настася, паклала рукі яму на плечы і тройчы пацалавала. Шчокі і вусны ў яе былі халодныя.

— Настася, а Настася! — паклікаў ён.

Яна павярнулася да яго.

— Маці дзе, Настася? Я думаў, ты мяне зводзіш...

— Парцізан на могілках акружылі былі. Танкамі ўсё зраўнялі...

Яна яшчэ нешта гаварыла сваім сумным, спакойным голасам, але ён не чуў, адчужана ішоў па сцяжынцы, якая мякка гойдалася ўваччу...

# Свята Перамогі

Вузкакрылы, косы, крыжасты цень пралятаў па невялічкіх і рэдзенькіх кусціках лазы, па вострай беднай балотнай асацэ і чорнай і густой вадзе між куп'я. Здавалася, не цяжкі маторны гул і свіст нізкага самалёта ўціскаў людзей у балота, а гэты вострыя, як брытва, косы крыж, які быццам рэзаў на ляту ўсё жывое.

Непадалёку ад Кізілы, пад густаватым, разложыстым кусцікам лазы ляжала стараватая жанчына ў суконным, у клеткі, андараку і ў мужчынскай вылінялай да белага рубашцы. Па гэтай рубашцы Хведар і пазнаў жанчыну — яна найбольш абмывала і абшывала разведчыкаў... Як толькі самалёт зноў заходзіў над балотам і косы яго цень пралятаў па ім, ад чаго, здавалася, варушылася, шапацела лісце на лазняку, бялявая і бледненькая з твару дзяўчынка, якую жанчына захіляла сабою, крычала немым голасам:

— Мамачка-а-а! Які ён лупаты і на мяне глядзіць!

— Ціха! Не крычы гэтак моцна! Нельга крычаць! — цішыла яе жанчына.

Дзяўчынка ляжала пад кустом на куп'і, засланым хусткаю-канаплянкаю, якую жанчына, мабыць, зняла з галавы. Валасы ў жанчыны былі гэтакія ж белыя ад сівізны, як і вылінялая рубашка. Дзяўчынка насцярожана заціхла, прыслухоўваючыся да самалётнага гулу. Кізіла нібыта адчуваў, як сцялася ўсё яе маленькае цела і як дрыжыць у ім кволенькая, бы пялёстак, душа ад жаху, бо гэтак хочацца жыць. Каб толькі не вярнуўся самалёт і лётчык зноў не ўглядаўся ў гэтае парослае каржакаватым бярэзнічкам балота...

